

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 8 (192)
Субота, 25 лютага 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# 1 САКАВІКА – ПАПЯЛЬЦОВАЯ СЕРАДА

***Вялікі Пост распачынаецца Папяльцовай Серадой за сорак дзён да Вялікадня. У гэты дзень у касцёле падчас пакаяннага набажэнства святар свеціць попел, атрыманы ад спаленых мінулагодніх вербаў. Пасля святой Імшы а 19.00 заахвочваем да ўдзелу ў 40-ГАДЗІННЫМ ПАКУТНЫМ НАБАЖЭНСТВЕ.***

Пасля святой Імшына святар пасыпае пасвенчаным попелам галовы вернікаў са словамі: ***"Памятай, чалавеча, што з пылу паўстаў ты і ў пыл ператворышся"***, альбо ***"Наяртайцеся і верце ў Евангелле".***

Яшчэ ў старажытнасці пасыпанне галоў попелам было знакам смутку і жальбы. Цар Давід, каючыся і аплакваючы свой грэх, пасыпаў галаву попелам, тое ж рабілі і жыхары горада Ніневіі.

У мінулым годзе на Вербную Нядзелю мы з радасцю бралі ўдзел у працэсіі, спявалі Хрысту – «Гасанна», абяцалі быць вернымі Богу, міласэрнымі да сям'і, бліжніх, але не стрымалі сваіх абяцанняў. І Касцёл Божы ў пачатку Посту напамінае нам: "Ты абяцаў Богу вернасць, але ці стрымаў сваё абяцанне?" Вось попел з мінулагодніх пальмаў-вербаў сведчыць нам, што зямное жыццё часовае, як гэтыя пальмы, застанецца толькі попел.

Трымайся Бога, і Ён цябе збавіць. "І Я кажу вам: прасіце – і будзе дадзена вам; шукайце – і знойдзеце; стукайце – і адчыняць вам" *Лк 11, 9.*

"Што немагчымае для людзей, тое магчымае для Бога" Лк 18, 27.

"Таксама праўду кажу вам: калі двое з вас на зямлі згодна аб нечым папросяць, усё гэта дасць ім Айцец Мой, Які ёсць на небе" Мц 18, 19.

"Кожны, хто пакліча імя Гасподняе, уратуецца" Дз 2, 21.

***Час Посту – гэта час на добрыя ўчынкі, час пакаяння і міласэрнасці, паяднання і перапрашэння, гэта час мабілізацыі духоўных сіл той ці іншай асобы.*** Працяглы 40-дзённы пост – для фізічнага цела ўстрыманні, а для душы – духоўная раскоша.

Крыху пасвенчанага попелу вернікі бяруць дамоў, каб пасля малітвы пасыпаць галовы тым, хто не змог быць на набажэнстве ў касцёле.

У Папяльцовую Сераду практыкуецца сціслы пост, без мяса і малочных прадуктаў, усё рыбнае альбо толькі хлеб і вада.

***Пост – гэта час пакаяння, час прымірэння з Госпадам і бліжнімі.*** Пост – гэта твая ахвяра Богу, каб хоць чым-небудзь адудзячыць Яму за Яго міласэрнасць да цябе.



Да Бога трэба ісці не толькі з малітвамі, але і з добрымі ўчынкамі, пастамі, цярплівасцю.

Ora et labora – маліся і працуй.

Дзеля нашага збаўлення Айцец Нябесны ахвяраваў на крыжовыя пакуты Свайго Адзінароднага Сына, Ісуса Хрыста.

Вялікі Пост – гэта час духоўнага росту і ўзмацнення волі дзякуючы Велікоднай споведзі. Каталіцкі Касцёл абавязвае кожнага веруючага абавязкова раз у год, у час Вялікага Посту, быць у споведзі.

Перад тым, як ісці да споведзі, кожны павінен памірыцца з бліжнім, бо калі не прымірышся, то як ты хочаш, каб Усявышні дараваў табе твае правіны?

У адной з галоўных Запаведзяў Бога сказана:

*"Любі бліжняга свайго, як самога сябе" Лев 19, 18*

Як бачыш, Бог і хрысціянская вера вучаць нас быць добрымі,

быць проста Людзьмі з вялікай літары, каб жыць шчасліва.

Час посту нагадвае нам пра тое, на чым грунтуецца жыццё хрысціяніна і пра вялікую адказнасць нашага збаўлення перад Усявышнім.

Мы павінны разважыць, якім здрадніцкім і далёкім ад Бога бывае сапсаваныя шатанам гэты свет, асяроддзе, а ў ім і чалавек. Жыццё наша зямное – як адно імгненне. Усіх нас чакае смерць, адыход з гэтага жыцця, і толькі несмяротная чалавечая душа мае перад Богам сапраўдную вартасць.

Усіх нас чакаюць тры непазбежныя справы: смерць, суд Божы, неба альбо пекла. Ніхто і ніколі гэтага не пазбегнуў, і ніхто не ведае, калі настане яго апошняя хвіліна часовага жыцця.

**Дарагія брат і сястра! Не будзем марнаваць час, які нам дадзены Богам, для пагоні за марнасцямі гэтага жыцця, але крыху падумаем аб нашай душы.**

Толькі з Богам мы моцныя і чагосьці вартыя. Вера дапаможа нам жыць паводле Божых Запаведзяў – у згодзе з Богам і бліжнімі, а гэта і ёсць жыццё сапраўднае.

Вялікі Пост – гэта час разважанняў над пакутамі Ісуса Хрыста, Які маліўся за нас, за мяне і цябе, дарагі брат і сястра.

Хрыстус прыняў смерць на крыжы, каб выратаваць і цябе ад вечнай смерці-пекла, каб адчыніць усім брамы неба. І мы, хрысціяне, павінны аб гэтым памятаць і ў меру сваіх магчымасцяў быць вернымі Хрысту нашым сумленным хрысціянскім жыццём.

Пост карысны чалавеку не толькі як ахвяра Госпаду, але і як ачышчэнне арганізма. У недалёкім мінулым, як успамінаем, былі ўведзены паўсюль рыбныя разгрузачныя дні ў аўторак і чацвер ва ўсіх дзяржаўных сталовых шпіталяў, войску, дзіцячых садкоў, піянерскіх лагераў. Усе гаварылі, што гэта добра, але чаму не ўвялі пост у кожную пятніцу, паводле хрысціянскай традыцыі? Бо антыхрыст ніяк не можа прызнаць усё добрае, што паходзіць ад Бога. Сатана ведае, што Бог існуе, але ніколі не хоча прызнаць Бога і служыць Яму. Сатана ёсць сатана. Не хоча Бога паслухаць, хоць сам прымушае ўсіх грэшнікаў, якія сва-імі грахамі прывязаныя да яго, каб яму, сатане, верна служылі, падпарадкоўвае іх сваёй шатанскай грэшнай волі.

З-пад улады сатаны не так проста выйсці. Пагавары аб гэ-




тым з бязбожным і апушчаным рэцыдывістам, каб вярнуўся да Бога і цнатлівага жыцця. Ведаеш, што табе адкажа? Сатана пад'юджвае ўсіх супраць паслухмянасці Госпаду Богу, каб нічога, што Божае, не выконвалі. А сам? Як зацята ён прывязвае сваю ахвяру-чалавека да пекла праз розныя грахі і слабасці, і аніякай свабоды. Змушае толькі слухаць яго-сатану.

У шатанскім асяроддзі няма ніякай свабоды – ні думак, ні чыну, ні волі. Прыгледзься да спіўшыхся алкаголікаў і апушчаных людзей, наркаманаў, людзей, прапагандуючых свабодную любоў. Якая там свабодная любоў і свабода? Гэта чорныя, бязвольныя, замбіраваныя рабы шатана, гэта тэрарысты сваіх душ.

Хрысціянская традыцыя настаўляе і клапоціцца аб духоўнай і фізічнай карысці пашчэння ўжо з трэцяга тысячагоддзя, а многія яшчэ разважаюць, даверыцца Богу ці не.

Хрысціянская рэлігія ва ўсіх сваіх законах і вучэннях заўсёды турбавалася не толькі аб духоўным, але і аб фізічным здароўі чалавека. У вучэннях Айцоў Касцёла заўсёды ўказвалася на ўстрыманне чалавека ад усяго празмернага, ад пагубных звычак, курэння, злоўжывання алкаголем, аб стрыманасці ў ядзе, пітве, ад празмернага багацця. Дзякуючы гэтым фізічным гамульцам можна і паўплываць на свой часта неўтаймаваны характар і натуру.

**Запаведзі Божыя – гэта не пакута, а клопат пра чалавека!**

Запаведзі Божыя абараняюць чалавека, яго душу, разумнае жыццё, здароўе ад рознага зла, бачнага і нябачнага.

У перыяд Вялікага Посту не гучыць арган, зняты з алтароў кветкі і ўсе ўпрыгожанні ля алтароў, не адбываюцца ўрачыстыя шлюбы. У час Вялікага Посту нельга наладжваць вяселлі і хадзіць на бясшлюбныя вяселлі не толькі ў посны час, але і нагул. Дзе няма Хрыста і Яго блаславенства, там і няма чаго рабіць вернікам, братам і сёстрам Ісуса Хрыста хрысціянам.

Гэта час пакаяння і малітвы.

Мы нікому не жадаем зла, але і патураць злу таксама не маем права, інакш гэта ўжо публічны грэх, паўтарэнне граха Люцыпара. Пасля такога станаўлення да Бога не можа быць бласлаўлення Усявышняга для нас і нашых дзяцей.

Без Бога ані да парога!

**Схілім жа ў пакоры галовы на знак пакаяння перад Усявышнім. Няхай жывая вера і скрушная малітва дапамогуць нам перапрасіць Бога за ўсе нашы правіны пыхі, правіны нашых дзяцей і родных.**

*кс. Уладыслаў Завальнюк*

# СЛОВА СВЯТАРА

## Хвала Хрысту!

Словы Хрыстовыя вядуць нас не толькі да Бога, але і да саміх сябе – чым далей мы ад Бога, тым меней ведаем сябе. І толькі праз Бога чалавек пазнае свой духоўны мір. Усе яго думкі, дзейнасць скіраваны на розныя справы і рэчы, ён умее ўсё рабіць. Але, якія б цуды ён не рабіў, на якой мове не размаўляў, а пра сваё сумленне, сваю душу, сваё духоўнае станаўленне ён забывае. Так людзі дзейнічаюць ва ўсім свеце. Калі ты не пазнаеш сябе праз пазнанне Бога, ты, амаль, як тая страла, выпушчаная з лука, ляціць, але не звязана з тым чалавекам, які выпусціў гэтую стралу.Чалавек не мае сувязі паміж сабой і тым, што ён робіць. Мы дзейнічаем у гэтым свеце і не ведаем, хто мы, чаму мы дзейнічаем. Словы з Евангелля (Мк 8, 22-27) паказваюць, як Хрыстус адкрывае вочы сляпому: "Паглядзі на сябе!" І ён бачыць людзей, бачыць Хрыста, – і адчувае сваю асабовасць. Вось што дала яму вера. Вера нам патрэбна, каб мы не толькі пазнавалі свет, у якім жывем, і ўсе нашыя дзеянні, але зразумелі, што вера адкрывае чалавеку ў першую чаргу законы, дае духоўную ежу, якая нас напаўняе, акрыляе і надае нам сэнс жыцця. Мы не можам сказаць, што баханак хлеба, абед, які мы спажываем, вячэра, сняданне даюць нам сэнс жыцця. Гэта чыста фізіялагічная патрэба, каб чалавек змог павысіць свой духоўны патэнцыял праз малітву і веру.

І тут паўстае пытанне: «Ці ж разумна паступаем мы, паступаюць людзі, калі кажуць, што нікому вера не патрэбна?» Калі ёсць вера, тады ёсць сумленне, якое яднае людзей, не дае ім магчымасці рабіць зло, грашыць. Праз веру чалавек убірае ў сябе Божы закон, вочы яго бачаць дабро і зло. Няма веры – няма Бога ў сэрцы – і чалавек аддае ўсе свае справы злому, робіць зло, хлусіць, і праз гэта пакутуе сам.

Ісус праз Евангелле дае нам вялікую ласку пазнання таго, што кожная малітва, удзел у набажэнствах, кожны твой добры чын – гэта адкрыццё нашых вачэй Ісусам. І кожны раз нядобрыя чыны – гэта дабраахвотнае прыніжэнне Бога, што робіць чалавека духоўна сляпым, хворым, недасканалым.

Таму мы ў нашых штодзённых малітвах просім Божай ласкі для ўсіх нас, нашых родных і блізкіх, нашых сем'яў – Божа, дай нам Тваю дапамогу, міласэрнасць, адкрый нам вочы душ нашых, каб мы разумна, сумленна бачылі сябе, каб мы ўдасканальвалі сябе ў гэтым жыццёвым віры. **Божа, Ты – наша мэта, Ты – наш паратунак, Ты – адзіная наша падтрымка. Амэн.**

*Кс. Уладыслаў Завальнюк*

З КАЛЕНДАРА ХРЫСЦІЯНІНА

# 17-18 ЛЮТАГА – УСПАМІН РОСІЦКІХ СВЯТАРОЎ, ПАКУТНІКАЎ

***Прайшоў ужо пэўны час, як у рэспубліцы афіцыйна адзначалася свята з нагоды перамогі над фашызмам у Другой Сусветнай вайне. Але яшчэ доўга будзе гучаць яе рэха, і ўсё новыя старонкі гісторыі і новыя імёны будуць адкрывацца нашчадкам.***

*Працяг, пачатак у нумары 7*

Менавіта да такіх мучанікаў належаць таксама і нашы сведкі веры, **блаславеныя Юры Кашыра і Антоні Ляшчэвіч**, якія ў лютым 1943 года аддалі свае жыцці разам з асуджанымі на смерць вернікамі. Яны сталі ахвярамі нацысцкай сістэмы. І адзіным матывам іх сведчання і смерці з'яўляецца Езус Хрыстус.

Кожнае хрысціянскае мучаніцтва паказвае глыбокую асабістую сувязь паміж Хрыстом і мучанікам, таму ад самых пачаткаў хрысціянства існуе перакананне, што менавіта праз мучаніцтва хрысціянін самым дасканалым чынам наследуе Хрыста.

Ксёндз Антоні Ляшчэвіч пасля заканчэння вучобы ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі, да таго, як ён уступіў у супольнасць ордэна айцоў марыянаў, быў душпастырам на Далекім Усходзе. Самаадданай працай на працягу 25 гадоў у Іркуцку, Чыце, Харбіне заслужыў павагу і прызнанне. Напярэдадні Другой Сусветнай вайны яго прызначылі кіраўніком місіі, цэнтрам якой быў абраны парафіяльны касцёл у Росіцы. У верасні 1941 г. распачаў актыўную душпастырскую працу.

Ксёндз Антоні Ляшчэвіч ездзіў па тэрыторыі, рамантаваў разбураныя касцёлы, засноўваў у прыдатных для гэтага будынках новыя капліцы, дзе сёстры навучалі людзей рэлігіі, а ён удзяляў Сакраманты.

Падобным быў і шлях ксяндза Юрыя Кашыры – першага ў поўнай меры выхаванца марыянскага кляштара ў Друі. Да ксяндза Ляшчэвіча ён далучыўся ў ліпені 1942.

...Ішоў 1943 год, самы складаны для краіны. Партызаны ўсё часцей праводзілі баявыя аперацыі ў раёне Росіцы. І пасля кожнага нападу «лясных братоў» немцы шукалі вінаватых, пагражалі растрэлам. Урэшце фашысты ў якасці помсты пастанавілі правесці карную аперацыю на тэрыторыі 60 кіламетраў уздоўж Дзвіны.

*Працяг на стар. 10*

# ДЛЯ БОЖИЕЙ МАТЕРИ НЕТ ВРЕМЕНИ. ОТКРОВЕНИЕ ПРЕЧИСТОЙ В ЛУРДЕ

*Продолжение, начало в № 5.*

Важно и то, что лурдские паломники исцелялись не только телесно, но и душевно, через обретение особого помазания и печатей от невидимого присутствия Божией Матери. Многие упоминают как бы незримое действие ангельских сил; иные слышали херувимские песнопения, раздававшиеся над гротом. По свидетельствам некоторых, приезжая с желанием личного исцеления, они покидали грот с жаждой исцеления других и принесения себя в жертву. Это также одна из наиболее сокровенных печатей Божией Матери. Иные обретали печать радости в скорбях, так что уже не желали исцеления, но напротив, понимали, что страдание есть особо благословенный удел, за который положено Царство Небесное, и пострадать с Пречистой Девой – разделить страдания Господа, распятого за грехи мира...

Из Лурда Богородица как бы озирает всю землю, посылая лучи Своей Материнской любви и утешения. Однако до 1940 года это место имело все же довольно скромную известность. Переломным моментом послужила Вторая мировая война.



Некий Франц Верфель, гражданин Австрии и иудей по происхождению, оказался в Лурде в 40-м году во время оккупации Франции немецкой армией. Ожидая преследований со стороны нацистов, Верфель дал в сердце своем обет: если Богородица поможет ему остаться в живых и достичь берегов Америки, он напишет книгу о Бернадетте.

Чудо свершилось. Верфель благополучно миновал военные заслоны и отплыл в Америку на корабле. Полицейские чины не заметили данных его паспорта... Писатель по профессии, Верфель сдержал свое слово, написав роман под названием “Песнь о Бернадетте”. Книга мгновенно стала бестселлером – при том, что ни одна из подобных книг до того в Америке не пользовалась ни популярностью, ни спросом! По роману Верфеля был поставлен фильм, и вскоре о Богоматери Лурдской узнали миллионы католиков...

Пророчество Пречистой о непростом земном уделе Бернадетты сбывается. Хрупкая здоровьем девочка пожелала стать на монашеский путь. И первым ее побуждением было поступить в монастырь кармелиток. Но ее не благословили: аскетический устав обители оказался слишком тяжелым для хрупкого здоровья избранницы Божией. В 1860 году она поступает в приют, где преподают монахини, а спустя еще 6 лет – в монаше-ский орден “Сестер любви и христианского обучения” в городе Невере и вскоре приносит иноческие обеты.

Юная монахиня много страдает. Скорби ее двоякого рода: от любопытствующих посетителей, желающих посмотреть на девушку, и от исцеленных паломников, считавших своим долгом нанести ей визит вежливости и благодарности... Но в



наибольшей степени страдала Бернадетта от некоторых монахинь, снедаемых завистью.

Лурд стал уже местом массового поклонения, а юная девушка несет тяжелый крест. Иные сестры, одержимые каинитским духом ("Подумаешь, избранница... Ей недостает смирения!") назначают ей тяжелые послушания, с которыми едва ли справится здоровая монахиня. К 25-ти годам тяжело больная Бернадетта уже готовится к смерти. Но Царица исцеляет ее: ей определено еще 10 лет испытаний во прощение грехов и обретение венца. Пречистая таинственно ведет ее к Голгофскому Кресту и просит разделить Свои страдания по спасению рода, стать сопричастницей скорбей Господних...

Она умерла в возрасте 35-ти лет, 16 апреля 1879 года, от непосильных работ и переживаний, сопряженных с безмерными уничижениями и жертвами во славу Непорочной. На смертном одре Бернадетта повторяет шепотом: *"Святая Мария, Матерь Божия, молись обо мне, грешной!"* По описаниям современников и биографов, Бернадетта все превратности судьбы переносила с необычайным терпением и духовной твердостью.

*Окончание следует*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 26 ЛЮТАГА
## 8 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
## ЧЫТАННЕ КНІГІ ПРАРОКА ОСІІ

*(Ос 2, 15в. 19-20)*

Так кажа Госпад:

"Прывяду яе ў пустыню і буду прамаўляць да яе сэрца. І там заспявае яна, як у дні маладосці сваей і як у дні выйсця свайго з зямлі егіпецкай.

І заручуся з табою навекі: і заручуся з табою ў справядлівасці і правасуддзі, у міласці і міласэрнасці. І заручуся з табою ў вернасці, і ты пазнаеш Госпада.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 103 (102), 1-2. 3-4. 8 і 10. 12-13 Р.: 8а)*

***Рэфрэн: Госпад міласэрны і ласкавы***

Блаславі, душа мая, Госпада, *
І ўсё нутро мае Імя Яго святое.
Блаславі, душа мая, Госпада *
і не забывай пра ўсе Яго дабрадзействы.

***Рэфрэн.***

Ён адпускае ўсе твае беззаконні *
і вылечвае ўсе твае хваробы.
Ён жыццё тваё ратуе ад загубы, *
літасцю і міласэрнасцю цябе карануе.

***Рэфрэн.***

Міласэрны ёсць Госпад і ласкавы, *
доўгацярплівы і шматміласцівы.
Не паступае з намі паводле грахоў нашых *
і адплачвае паводле правінаў нашых.

***Рэфрэн.***

Як далёка ўсход ад захаду, *
так аддаліў ад нас Ён нашыя правіны.
Як літуецца бацька над сынамі, *
так змілуецца Госпад над тымі, хто Яго баіцца.

***Рэфрэн.***

## ЧЫТАННЕ ДРУГОГА ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА КАРЫНЦЯНАЎ

*(2 Кар 3,1в-6)*

Браты:

Няўжо нам, як некаторым, патрэбны даверныя лісты да вас ці ад вас? Вы – наш ліст, напісаны ў сэрцах нашых, які ведаюць і чытаюць усе людзі. Вы паказваеце, што вы – ліст Хрыстовы, напісаны дзякуючы нашаму служэнню, не чарніламі, але Духам Бога Жывога, не на каменных табліцах, але на цялесных табліцах сэрцаў. Такі давер мы маем праз Хрыста да Бога. Не таму, што мы здольныя думаць нешта ад сябе, але здольнасць нашая ад Бога, які даў нам магчымасць быць слугамі Новага Запавету: не літары, але духу, бо літара забівае, а дух ажыўляе.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Алелюя!***

Пастанавіўшы, нарадзіў нас Айцец словам праўды,
каб мы былі пэўным пачаткам яго стварэнняў.

***Алелюя!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 2, 18-22)*

У той час:



У Янавых вучняў і фарысеяў быў пост. Таму прыйшлі да Езуса і пыталіся: "Чаму вучні Яна і вучні фарысеяў посцяць, а Твае вучні не посцяць?"

Езус адказаў: "Ці могуць пасціць вясельныя госці, калі з імі жаніх? Пакуль прысутнічае між імі жаніх, яны не могуць пасціць. Але настане час, калі возьмуць ад іх жаніха, і тады, у гэты дзень, яны будуць пасціць. Ніхто не прышывае латкі з новага сукна да старой вопраткі. Бо новая латка яшчэ больш рве старую вопратку і павялічвае дзіравасць. Таксама ніхто не ўлівае новае віно ў старыя мяхі. Бо тады новае віно прарве мяхі, і віно і мяхі прападуць. Таму новае віно трэба ўліваць у новыя мяхі".

***Лектар:*** Гэта слова Пана.

***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.



# ПАСЛАННЕ БЕНЕДЫКТА XVI НА XIV СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ХВОРАГА

***Дарагія браты і сёстры, 11 лютага 2006 г., у дзень успаміну Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда, адбыўся XIV Сусветны дзень хворага. У мінулым годзе такі Дзень праходзіў у марыйным санктуарыі Мвольe ў Яундэ, і з гэтай нагоды вернікі і іх пастыры ад імя ўсяго афрыканскага кантынента ізноў пацвердзілі свой пастырскі клопат пра хворых.***



Наступны Дзень пройдзе ў Адэлаідзе ў Аўстраліі, і там кульмінацыяй усіх мерапрыемстваў стане цэлебрацыя Эўхарыстыі ў катэдры святога Францішка Ксавэрыя, які быў нястомным місіянерам народаў Усходу. З гэтай нагоды Касцёл мае намер з асаблівым клопатам звярнуцца да тых, хто церпіць, і зноў прыцягнуць увагу грамадскай думкі да праблемаў, звязаных з псіхічнымі захворваннямі, ад якіх пакутуе пятая частка чалавецтва, у сувязі з чым яны патрабуюць неадкладных медыцынска-сацыяльных захадаў. Памятаючы пра ўвагу, з якою мой шаноўны Папярэднік Ян Павел II ставіўся да гэтага штогадовага мерапрыемства, я таксама, дарагія браты і сёстры, хацеў бы духоўна прысутнічаць на Сусветным дні хворага, каб разам з удзельнікамі ўважліва разгледзець становішча псіхічна хворых людзей у свеце і заахвоціць касцёльныя супольнасці да дзейнасці дзеля сведчання ім пра ласкавую міласэрнасць Пана.

У многіх краінах пакуль няма адпаведнага заканадаўства ў гэтай сферы, а ў іншых адсутнічае канкрэтная палітыка ў галіне псіхічнага здароўя. Неабходна таксама адзначыць, што працяглыя ўзброеныя канфлікты ў розных рэгіёнах свету, наступствы жахлівых прыродных катастрофаў, распаўсюджванне тэрарызму акрамя таго, што забіраюць шмат ахвяраў, для многіх з тых, хто выжыў, з'яўляюцца прычынаю псіхічных траўмаў, якія вельмі цяжка паддаюцца лячэнню. У эканамічна развітых краінах узнікненне новых формаў псіхічных расстройстваў спецыялісты звязваюць з негатыўнымі наступствамі крызісу маральных каштоўнасцяў. Гэта павялічвае пачуццё самотнасці, аслабляючы і разбураючы традыцыйныя формы суіснавання ў грамадстве, пачаўшы з інстытута сям'і, выключаючы з жыцця хворых, асабліва псіхічна хворых, да якіх часта ставяцца як да цяжару для сям'і і для супольнасці. Тут я хачу аддаць належнае ўсім тым, хто парознаму і на розных узроўнях спрые таму, каб дух салідарнасці не заняпаў, але каб умацоўваўся ў клопаце пра нашых братоў і сясцёр, натхняючыся гуманістычнымі і евангельскімі ідэаламі і прынцыпамі.

У сувязі з гэтым я падтрымліваю кожнага, хто прыкладвае свае намаганні для таго, каб кожны псіхічна хворы мог атрымаць неабходнае лячэнне. На жаль, у многіх частках свету службы, прызначаныя для такіх хворых, адсутнічаюць, з'яўляюцца недастатковымі або знаходзяцца ў занядбаным стане. Сацыяльнае асяроддзе не заўсёды прымае псіхічна хворых людзей з іх абмежаванасцю, і з гэтай прычыны таксама бывае цяжка знайсці неабходныя чалавечыя рэсурсы і матэрыяльныя сродкі. Адчуваецца неабходнасць лепшага ўзаемадапаўнення двух падыходаў: адпаведнай тэрапіі і новай спагадлівасці перад абліччам хваробы, такім чынам, каб дазволіць тым, хто працуе ў гэтай сферы, больш эфектыўна выйсці насустрач хворым і іх сем'ям, якія самі па сабе не могуць належным чынам даглядаць сваіх блізкіх, што апынуліся ў цяжкім становішчы. Надыходзячы Сусветны дзень хворага - гэта добрая нагода для таго, каб праявіць салідарнасць з сем'ямі, якія маюць на ўтрыманні псіхічна хворых.

Цяпер я хачу звярнуцца да вас, дарагія браты і сёстры, якія церпіце ад хваробы, каб заклікаць вас разам з Хрыстом ахвяраваць ваш цяжкі стан і цярпенне Айцу з упэўненасцю, што любое выпрабаванне, прынятае з пакораю, заслугоўвае і прыносіць Божую ласку ўсяму чалавецтву. Я выказваю маю ўдзячнасць тым, хто дапамагае вам у спецыялізаваных цэнтрах, дзённых стацыянарах, у дыягнастычных і лячэбных аддзяленнях, і заклікаю іх прыкладаць усе намаганні, каб тыя, хто ў патрэбе, ніколі не засталіся без медыцынскай, сацыяльнай і пастырскай дапамогі, якая не парушае годнасці, уласцівай кожнай чалавечай істоце.

Касцёл, асабліва праз служэнне капеланаў, не пакіне вас без сваёй дапамогі, усведамляючы сваё пакліканне абвяшчаць любоў і клопат Хрыста ў адносінах да тых, хто пакутуе, і тых, хто імі апякуецца.

*Заканчэнне на стар 11.*

# «DEUS CARITAS EST»

## *wokół pierwszej encykliki Benedykta XVI*

*Працяг, пачатак у нумары 7*

O czym świadczą przytoczone przykłady? O odwadze Benedykta XVI, który nie boi się dialogu ze światem, z myślącymi inaczej, a także o zwykłej uczciwości, kiedy wspomina bolesne karty Kościoła. Odwaga i uczciwość tworzą, jak sądzę, podstawowy fundament encykliki, na którym można odsłaniać piękno miłości Bożej i ludzkiej.

Dwie są „definicje» Boga na kartach Pisma Świętego. Starszą znajdujemy w Księdze Wyjścia (3, 14). Na pytanie, kim jest ten, który nakazuje mu wyprowadzenie ludu z ziemi egipskiej, Mojżesz słyszy: „Jestem, który jestem». Niezależnie od dyskusji na temat rozumienia tego zagadkowego tekstu, służył on od zawsze tym teologom chrześcijańskim, którzy kładli nacisk na ontologiczną jego interpretację – «Jestem, który jestem» to tyle, co byt doskonały, niezmienny.

Drugą z «definicji» znajdujemy w Pierwszym Liście św. Jana: «Bóg jest miłością: kto trwa w miłości, trwa w Bogu, a Bóg trwa w nim». Można powiedzieć z dużą pewnością, że Benedykt XVI opowiada się za pierwszeństwem tej właśnie definicji. Oto początkowe zdania jego encykliki: „Słowa z Pierwszego Listu św. Jana wyrażają ze szczególną jasnością istotę wiary chrześcijańskiej: chrześcijański obraz Boga i także wynikający z niego



obraz człowieka i jego drogi. Oprócz tego, w tym samym wierszu, św. Jan daje nam jakby zwięzłą zasadę chrześcijańskiego życia: «Myśmy poznali i uwierzyli miłości, jaką Bóg ma ku nam».

Drugą z «definicji» znajdujemy w Pierwszym Liście św. Jana: „Bóg jest miłością: kto trwa w miłości, trwa w Bogu, a Bóg trwa w nim». Można powiedzieć z dużą pewnością, że Benedykt XVI opowiada się za pierwszeństwem tej właśnie definicji. Oto początkowe zdania jego encykliki: „Słowa z Pierwszego Listu św. Jana wyrażają ze szczególną jasnością istotę wiary chrześcijańskiej: chrześcijański obraz Boga i także wynikający z niego obraz człowieka i jego drogi. Oprócz tego, w tym samym wierszu, św. Jan daje nam jakby zwięzłą zasadę chrześcijańskiego życia: «Myśmy poznali i uwierzyli miłości, jaką Bóg ma ku nam».



Encyklika ma dwie części. Pierwsza jest poświęcona interpretacji miłości, jaką poznajemy ze źródeł biblijnych. Odczytuję ją jako bardzo oryginalną i inspirującą, i na niej zatrzymuję uwagę w pierwszej lekturze tego dokumentu. Skoncentruję się na ważnej sprawie, dotyczącej samej istoty miłości. Czym jest «miłość», o której mówi Biblia i z którą utożsamia samego Boga? Benedykt XVI pozostaje wnikliwym i precyzyjnym intelektualistą, zdaje więc sobie sprawę z zamieszania, jakie panuje na (uczone sformułowanie!) polu semantycznym określanym słowem „miłość». Grecy pisząc o miłości posługiwali się terminami philią dla wskazania miłości-przyjaźni oraz słowem eros dla oddania miłości wznoszącej się ku temu, co wyższe, piękniejsze i szlachetniejsze.

Czy Bóg tak kocha? Grecy wiedzieli, że takie pojęcie miłości, która dąży do tego, co wyższe, szlachetniejsze i piękniejsze – nie stosuje się do Boga. Nowy Testament, który stanął wobec rzeczywistości Boga pochylającego się (w Jezusie Chrystusie) nad człowiekiem, nie mógł tego nazwać erosem; Bóg jest Agape, miłością, która pochyla się nad tym, co słabe. Dlatego Jezus szukał tych, którzy zginęli, celników i nierządnic.

Dlatego bez żadnej zrozumiałej dla nas racji pochyla się nad człowiekiem i chce przywrócić mu godność. Jesteśmy bowiem ludźmi wtedy, gdy świadomie urzeczywistniamy w sobie to, na czyje podobieństwo zostaliśmy stworzeni. To nie człowiek jest miarą wszechrzeczy, ale Bóg jest miarą człowieka, a dokładnie – miarą człowieka jest jego serce otwarte na Boga.

Za sprawą protestanckiego uczonego Andersa Nygrena przeciwstawiono te dwa typy miłości; miłość ludzka jest całkowicie inna od boskiej, a jedynie próbuje ją – uświęcona przez łaskę – naśladować. Ale oznaczało to, że porządek stworzenia stoi w sprzeczności ze zbawczym dziełem Boga.

To, co zwyczajnie i naturalnie ludzkie, jest naznaczone fundamentalnym złem. Wywołało to żywą debatę, a encyklika wnosi do rozmowy istotne światło: nie ma sprzeczności między erosem i agape. Przejmujące i piękne są te strony dokumentu, na których Autor ukazuje „erotyczny» wymiar miłości Boga do człowieka.

*Tygodnik powszechny*

*Працяг будзе*

# ЯН ПАВЕЛ II. «UT UNUM SINT». ЭНЦЫКЛІКА ПРА ЭКУМЕНІЧНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

***У 1995 г. была абвешчана гістарычная энцыкліка Вялікага Папы «Ut unum sint», прысвечаная экуменічнай дзейнасці Касцёла, кароткі пераказ зместу якой прапануецца вашай увазе.***

*(Працяг. Пачатак у №4)*

### Узрастанне адзінства

«Каштоўным пладом кантактаў паміж хрысціянамі і тэалагічнага дыялогу, які яны вядуць паміж сабою, з'яўляецца ўзрастанне адзінства. Гэтыя кантакты і дыялог дазволілі хрысціянам убачыць элементы веры, якія іх аб'ядноўваюць. (...) Дагматычная Канстытуцыя *«Lumen gentim»* аб'ядноўвае навучанне пра Каталіцкі Касцёл з прызнаннем збаўчых элементаў, якія прысутнічаюць у іншых Цэрквах і царкоўных Супольнасцях. (...) Паколькі гэта даброты Хрыстовага Касцёла, яны па сваёй сутнасці прыспешваюць вяртанне еднасці». За апошні час было пераадолена шмат традыцыйных непаразуменняў.

### Дыялог з Усходнімі Цэрквамі

Сувязь Каталіцкага Касцёла з Усходнімі Цэрквамі ўмацавалася падчас II Ватыканскага Сабору, калі прысутныя на ім прадстаўнікі царкоўных супольнасцяў Усходу публічна выказалі супольную волю імкнуцца да адзінства.

Са свайго боку Сабор адзначае, што «гэтыя Цэрквы, нягледзячы на адлучэнне, мелі сапраўдныя Сакраманты, а асабліва, у сілу апостальскай паслядоўнасці, святарства і Эўхарыстыі, дзякуючы якім да гэтага часу з'яднаныя з намі найцяснейшаю повяззю». Таму Сабор імкнецца пабудаваць дыялог на існуючым адзінстве. Яго развівае змешаная міжнародная Камісія па тэалагічным дыялогу паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквою.

Гэты працэс вядзе да паступовага адшукання братэрства.

### Узнаўленне кантактаў

Ян Павел II адзначае, што гэтае збліжэнне пачалося перш за ўсё дзякуючы адкрытасці Папаў Яна XXIII і Паўла VI з аднаго боку і сусветнага Патрыярха Афінагора і яго наступнікаў з другога. «Гістарычным выразам змены, якая адбылася,



стаў эклезіяльны акт, у сілу якога „быў выдалены з памяці і з жыцця Касцёла" упамін пра экскамунікі, якія за 900 гадоў да гэтага, у 1054 г., сталі сімвалам схізмы паміж Рымам і Канстантынопалем. (...) Такім чынам, саборны сход завяршыўся ўрачыстым актам, які стаў адначасова ачышчэннем гістарычнай памяці, узаемным прабачэннем і рашэннем салідарна імкнуцца да адзінства».

Стаўшы Папам, Ян Павел II палічыў адным з першых заданняў свайго служэння ўстанаўленне асабістага кантакту з сусветным Патрыярхам Дымітрыасам I, што яму паспяхова ўдалося. Рэгулярныя кантакты дазваляюць непасрэдны абмен інфармацыяй і поглядамі, што служыць братняму ўзаемадзеянню, а ўзаемны ўдзел у малітве прызвычайвае нас да суіснавання. Знамянальнай падзеяй на шляху да адзінства стала абвяшчэнне ў 1984 г. святых Кірыла і Мятода Апекунамі Еўропы.

«У гэтай перспектыве яшчэ больш абгрунтаванымі становяцца словы, якія я паўтараў шмат разоў: Касцёл павінен дыхаць абодвума лёгкімі!». Калі ў першым тысячагоддзі хрысціянства гэты выраз адносіўся да пары Візантыя — Рым, то з часу хросту Русі яго значэнне пашырылася, а паколькі гэтая падзея адбылася яшчэ да падзелу, да поўнай камуніі трэба імкнуцца ў перспектыве еднасці, якая не адмяняе законнай разнастайнасці.

### Цэрквы-сёстры

«Гістарычны гарызонт саборнага Дэкрэту *«Unitatis redintegratio»* ахоплівае тое адзінства, якое, нягледзячы ні на што, было рэальнасцю ў першым тысячагоддзі. Яно становіцца як бы ўзорам». Адзінства Касцёла ў першым тысячагоддзі выяўлялася ў еднасці мясцовых біскупаў з біскупам Рыму, і калі сёння мы хочам вярнуцца да поўнай камуніі, то павінны ўзяць за прыклад тое адзінства і яго структуру. Сабор сцвердзіў, што адным з фактараў, які спрыяў адзінству, былі адносіны паміж мясцовымі Цэрквамі, як паміж сёстрамі, таму мясцовым цэрквам, з'яднаным вакол свайго біскупа, было вернута азначэнне «Цэрквы-сёстры». «Сёння, пасля доўгага перыяду падзелу і ўзаемнага непаразумення, Бог дазваляе нам нанава адкрыць, што мы з'яўляемся Цэрквамі-сёстрамі, нягледзячы на перашкоды, якія паўсталі паміж намі

ў мінулым». Больш таго, Сабор звяртае ўвагу на тое, што розныя тэалагічныя фармулёўкі Цэркваў Усходу і Захаду «часта хутчэй дапаўняюць адна другую, чым супярэчаць». Пацвярджаючы існаванне камуніі веры, Сабор на падставе гэтага зрабіў пэўныя душпастырскія высновы і, між іншым, пастанавіў: «Каталіцкі Касцёл у адпаведнасці з абставінамі часу, месца і асобаў няраз прымяняў і прымяняе больш лагоднае стаўленне, даючы ўсім сродкі збаўлення і сведчанне любові паміж хрысціянамі праз удзел у Сакрамантах і іншых святых дзеяннях і рэчах». Такая тэалагічная і душпастырская арыентацыя была замацавана двума Кодэксамі Кананічнага Права.

### Прагрэс дыялогу

З хвіліны свайго стварэння ў 1979 г. міжнародная змешаная Камісія па тэалагічным дыялогу паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнаю Царквою дасягнула значных поспехаў, а менавіта, што дзве гэтыя Супольнасці «ўжо могуць разам вызнаваць як супольную веру ў таямніцу Касцёла і сувязь паміж вераю і сакрамэнтамі», а таксама што «ў нашых Цэрквах апостальская паслядоўнасць мае фундаментальнае значэнне для асвячэння і еднасці Божага народа». Камісія змагла таксама выпрацаваць агульны метад імкнення да поўнай камуніі, які грунтуецца на дактрыне Цэркваў-сясцёр, і выкарыстоўвае дыялог праўды праз дыялог любові. Аднавіць адзінства праз амаль тысячу гадоў – вось заданне, якое стаіць перад Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнаю Царквою.

*Catholic.by*

*Працяг будзе*

## З КАЛЕНДАРА ХРЫСЦІЯНІНА

*Працяг, пачатак на стар 3.*

Святары Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра, якія служылі ў мясцовым касцёле, таемна атрымалі ад сувязных інфармацыю, што вёска будзе знішчана. Ім раілі як мага хутчэй выехаць адтуль. Але хіба магчыма ў такі час пакінуць людзей?

У сярэдзіне лютага на тэрыторыі за Дзвіной распачалася карная аперацыя. Фармальна яна была скіравана супраць партызанаў, аднак галоўны яе ўдар прышоўся на безабароннае мірнае насельніцтва.

Жыхароў навакольных вёсак зганялі ў касцёлы ці іншыя будынкі і сартавалі: моладзь і здаровых дарослых вывозілі на працу ў Нямеччыну, а старых, хворых і дзяцей заганялі ў амбары, дзе растрэльвалі і палілі. Гэта аперацыя працягвалася каля двух тыдняў, да таго часу, пакуль тамтэйшая зямля цалкам не апусцела.

...17 лютага ў Росіцы увесь касцел быў запоўнены людзьмі. Святары мелі дазвол свабодна выходзіць з яго. Аднак яны ўвесь час былі тут: прыносілі ежу і піццё дзецям, суцяшалі, спрабавалі заступіцца за вяскоўцаў перад фашыстамі. Эсэсаўцы пачалі падазрона ставіцца да кс. Ляшчэвіча, бо бачылі, што ён меў на людзей вялікі ўплыў. Яго падазравалі таксама і ў сувязях з партызанамі. Праўда, 17 лютага, у дзень, калі павінна была загінуць першая палова жыхароў, святару паведамілі, што ён свабодны. Але той пайшоў на смерць разам са сваімі парафіянамі.

Другому ксяндзу, Юрыю Кашыру, далучыцца да людзей, прызначаных на загубу, было няпроста, бо характар ён меў мяккі і баязлівы. Таму яго рашэнне заслугоўвае асаблівае павагі. Усю ноч крыжам праляжаў ён ля алтара, молячыся за душы спаленых людзей. І рыхтаваўся да ўласнай смерці, якая настала на другі дзень не толькі для яго, а і для астатніх яго землякоў.



На тэрыторыі тых мясцін жылі таксама і праваслаўныя. Таму ад самага пачатку дзейнасць марыянаў была скіравана на тое, каб ахапіць душпастырскім клопатам не толькі каталікоў, а і таксама пакінутых іх Царквою праваслаўных вернікаў. Праваслаўныя вернікі прыходзілі да касцёла, і святары не рабілі ніякай розніцы паміж людзьмі, дапамагаючы кожнаму хрысціяніну. Многія думалі так, як і праваслаўная жыхарка вёскі Крывасельцы Марта Пірог: «Я ўпэўнена, што святары, калі б захацелі сябе выратаваць, то безумоўна, лёгка маглі б атрымаць вызваленне. Аднак яны лічылі, што іх месца сярод людзей, якім была вельмі патрэбна падтрымка. Таму і пайшлі ў агонь дзеля бліжняга свайго. Антоні Ляшчэвіч і наш зямляк Юры Кашыра аддалі свае жыцці за простых людзей. І яны з'яўляюцца пакутнікамі».

Аршанскіх школьнікаў захапіла гэта гісторыя. З цікавасцю даведаліся яны, што два разы на год у Росіцу накіроўваюцца пілігрымкі: зімой на аўтобусах прыязджаюць людзі з розных куткоў рэспублікі, менавіта ў трагічныя лютаўскія дні.

*Алена Банкевіч*

*На фота: Бл. Юры Кашыра*

*Заканчэнне у наступным нумары*

# НАВІНЫ

АБ'ЯВА

## Пасяджэнне прызідыуму SIGNIS-Беларусь

З 8 па 9 лютага 2006 г. Баранавіцкі дом Місіянераў Божага Слова – Вербістаў – гасцінна прымаў членаў прэзідыума Каталіцкай асацыяцыі для камунікацый SIGNIS-Беларусь, якія сабраліся на сваё чарговае пасяджэнне. Былі разгледжаны актуальныя пытанні, звязаныя з функцыянаваннем каталіцкіх сродкаў масавай інфарамацыі ў нашай краіне і перспектывы развіцця супрацоўніцтва паміж імі ў справе евангелізацыі.

Члены прэзідыума з энтузіязмам абмяркоўвалі будучыя праекты SIGNIS-Беларусь. Усе сышліся на думцы, што прыярытэтам на наступным этапе дзейнасці асацыяцыі павінна стаць распрацоўка інтэрнэт-праектаў. Менавіта гэты сегмент медыя-рынку развіваецца надзвычай хуткімі тэмпамі і таму павінен стаць адным з галоўных форумаў абвяшчэння Евангелля. Былі вызначаны адказныя за распрацоўку і рэалізацыю працы ў гэтым накірунку. Удзельнікі сустрэчы выказалі цвёрдае перакананне ў неабходнасці існавання такой асацыяцыі, як SIGNIS-Беларусь, і яе далейшага развіцця.

*Catholic.by*



**Дарагая моладзь!**

25 лютага 2006 г. запрашаем Вас прыняць удзел у моладзевым спатканні на тэму падрыхтоўкі да ВЯЛІКАГА ПОСТУ разам з гуртом «MIŁOŚĆ».

Пачатак у 19.00 урачыстай святой Імшой.

Чакаем Вас у касцёле св. Сымона і св. Алены па адрасе: г.Мінск, пл. Незалежнасці, 15.

# НАВІНЫ

*Заканчэнне, пачатак на стар 7*

Душпастыраў, супольнасці і валанцёрскія арганізацыі я прашу падтрымліваць канкрэтнымі захадамі і ініцыятывамі сем'і, якія маюць на ўтрыманні псіхічна хворых. Я жадаю, каб у адносінах да іх развівалася і распаўсюджвалася культура прымаць і дзяліцца, дзякуючы ў роўнай ступені адпаведным законам і медыцынскім мерапрыемствам, для якіх будзе прадугледжана дастатковае забеспячэнне, каб яны мелі канкрэтнае прымяненне. Як жа неабходна займацца падрыхтоўкай і павышэннем кваліфікацыі персанала, які працуе ў такім далікатным сектары грамадства! Кожны хрысціянін у адпаведнасці са сваім уласным заданнем і асабістай адказнасцю пакліканы зрабіць свой унёсак у тое, каб была прызнаная, шанаваная і ўзвялічаная годнасць гэтых нашых братоў і сясцёр. Duc in altum! (Выплыві на глыбіню!) Гэты заклік Хрыста да Пятра і апосталаў я скіроўваю да касцёльных супольнасцяў ва ўсім свеце і асабліва да тых, хто прысвячае сябе служэнню хворым, каб яны з дапамогаю Марыі - Salus infirmorum - сведчылі пра дабрыню і айцоўскі клопат Бога. Няхай Найсвяцейшая Панна ўмацоўвае тых, хто пакутуе ад хваробы, і падтрымлівае тых, хто, як добры самарытанін, аблягчае іх цялеснае і духоўнае цярпенне. Абяцаю пра кожнага памятаць у малітве і з радасцю ўдзяляю ўсім маё благаслаўленне.

*Ватыкан, 8 снежня 2005 г.*
*BENEDICTUS PP. XVI*
*Рэдакцыяя часопіса "Ave Maria"*

# СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**

1. Марына Дакшаніна, дачка Аляксандра і Наталлі
2. Мікалай Драчаў, сын Анатоля і Галіны
3. Вікторыя Мазепіна, дачка Алега і Мар'яны
4. Яна Жыдаловіч, дачка Валерыя і Алены
5. Віталій Марозік, сын Валерыя і Анжэлы
6. Дар'я Вярхоўская, дачка Аляксандра і Валянціны



**Малітва бацькоў пасля Хросту**

Божа, Ойча ўсяго жывога! Зірні ласкава на гэтае дзіцятка, якое Ты даў нам. Адары яго верай, надзеяй і любоўю, учыні, каб, узрастаючы ў ласцы і любові, заквітнела добрымі ўчынкамі і стала дзіцяткам Тваім навекі.

**СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА**

_______ . _______ 2005г. у _______ . _______ гадзін

у інтэнцыі ______________________________________________

______________________________________________

| 20 лютага Панядзелак | 21 лютага Аўторак | 22 лютага Серада | 23 лютага Чацвер | 24 лютага Пятніца | 25 лютага Субота | 26 лютага Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - * | 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - * | 8.00 - * | 9.00 - * |
| 12.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 10.00 - ✞ | 10.00 - *IT |
| 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 12.00 - * | 11.00 - * |
| 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 17.00 - * | 13.00 - S |
| | | | | | 19.00 - ✞ | 17.00 - *🕯 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых

* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай

S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі

PL – Св. Імша на польскай мове

🕯 – Св. Імша для дзяцей

**скл.** – складковая Святая Імша

IT – Св. Імша на італьянскай мове

♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**

У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**

Кожны дзень у нашай парафіі а 20-й гадзіне спяваецца **АПЭЛЬ**

**1 сакавіка - ПАПЯЛЬЦОВАЯ СЕРАДА**

**4 сакавіка - Успамін св. Казіміра**

26 ЛЮТАГА - 8 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

## РАДУЕМСЯ З ВАМІ

**Сардэчна віншуем з Днём нараджэння ксяндза АНДРЭЯ САНЬКО – добрага пастыра, адданага Божай справе святара, апостала Божай Міласэрнасці, які нясе ўсім людзям сапраўдную любоў Божую, дапамагаючы у жыццёвых цяжкасцях і выпрабаваннях ўсім патрабуючым.**

**Мы шчыра да Вас свае сэрцы прыносім,**
**З малітвай за Вас Пана Бога мы просім.**
**Пашлі, добры Ойча, здароўе, цярпенне,**
**Дай Духа Святога і благаслаўленне.**

*ад імя ўсіх пілігрымаў пані ЭТОЛІЯ*

## ІМЯНІНЫ

**28 лютага - св. Раман -** Макар, Лех, Людамір, Людаміра, Анісім, Леанард, Вольга, Ефрасіння,

**1 сакавіка - св. Альбін, св. Фелікс -** Альбіна, Антон, Антаніна

**2 сакавіка - св. Сімпліцый -** Павел, Алена, Радаслава, Эльза, Тэрэса, Чэслаў, Паўліна, Аляксандр, Марыяна, Міна, Фёдар

**3 сакавіка - св. Кунегунда -** Марына, Тыцыян, Пётр, Моніка, Петра, Кузьма, Леў

**4 сакавіка - св. Казімір -** Казіміра, Архіп, Багдан, Люцыя, Макар, Максім, Філімон, Фёдар, Фядот, Яўген, Яўгенія, Ада

**5 сакавіка - св. Віргілій -** Агафона, Карніла, Леў, Вацлаў, Тэафілія, Андрыян, Фрэдэрык, Яна, Юзэфа, Алівія, Вацлава, Ян, Юзэф

**6 сакавіка - св. Роза (Ружа), св. Агнешка -** Астап, Віктар, Георгій, Калета, Вітольд, Ія, Ярдан, Вікторыя, Цімафей

Голас душы № 8 (192) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 200_ г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрднасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by,
www.churchminsk.by. Падпісана да друку 22.02.2006. Фармат 60х84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №